# БУРЖУАЗНЫЯ І ДРОБНАБУРЖУАЗНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ МОЛАДЗІ Ў БЫЛОЙ ПОЛЬСКАЙ ДЗЯРЖАВЕ

Становішча працоўнай моладзі ў былой панскай Польшчы было надзвычайна цяжкім. Велізарная армія беспрацоўных маладых рабочых, сялян і інтэлігентаў папаўнялася беспярапынна. Колькасць моладзі, занятай у буйнай і сярэдняй прамысловасці, якая складала ў 1931 г. 4,1 проц., знізілася ў 1937 г. да 2,6 проц. да агульнага ліку працуючых. Дзеці батракоў і бедных сялян, пазбаўленыя зямлі, работы і хлеба, былі асуджаны на галоднае, бесперспектыўнае жыццё.

Паўтара мільёны дзяцей былі па-за школай. З шасці з паловай мільёнаў непісьменных значную частку складала моладзь. Беларуская, украінская і яўрэйская моладзь пераносілі цяжкі нацыянальны і культурны прыгнёт. У 1934/35 гадах у Польшчы скончыла сярэднюю школу 10.784 палякі, 486 украінцаў і ўсяго толькі 55 беларусаў. Але і тыя нямногія, якім удалося атрымаць сярэднюю і нават вышэйшую асвету, у сваёй болшасці не маглі атрымаць работу па сваёй спецыяльнасці.

На фоне гэтага, амаль безвыходнага становішча нездавальненне шырокіх мас моладзі прымала ўсё больш вострыя формы. Працоўная моладзь ахвотна адгукалася на заклікі рэвалюцыйнага руху і ўважліва прыслухоўвалася да вестак з Усхода аб шчаслівым жыцці моладзі ў Совецкім Саюзе.

Але адначасова буржуазія і яе рэакцыйныя групіроўкі рабілі ўсё для таго, каб перахапіць бурныя настроі моладзі і прыцягнуць яе на свой бок пры дапамозе самай бессаромнай нацыяналістычнай і социяльнай дэмагогіі.

## I.

Пануючая ў Польшы група пілсудчыкаў, смiглых, бекаў і масціцкіх і іх партыя, якая называла сябе ў апошні час ОЗН (абоз з'едначэння народовэго),— лагер нацыянальнага аб'яднання — мела не малую колькасць разнастайных маладзёжных арганізацый, арганізаваных пры дапамозе буйных асігнаванняў з дзяржаўнага фонда.

Пілсудчыкі, якія выражалі інтарэсы самых рэакцыйных груп фінансавага капітала, прымянялі разнастайныя метады палітычнага ашуканства і матэрыяльнага подкупу для таго, каб прыцягнуць моладзь. Яны апіраліся на розныя поўваенныя, спартыўныя і палітычныя арганізацыі моладзі.

Самай старой і шырокай поўваеннай арганізацыяй пілсудчыкаў, якая еднала перш за ўсё дарослую моладзь, быў «Саюз стральцоў». Гэта арганізацыя была цяснейшым чынам звязана з польскімі ваеннымі ўладамі, маючы сваёй мэтай падрыхтоўку маладых рабочых, сялян і інтэлігентаў да службы ў радах белапольскай арміі. Гэта рабілася не толькі шляхам баявых практыкаванняў і прымянення строгай казарменнай дысцыпліны, але і пры дапамозе адпаведнай палітычнай работы ў духу крайняга шавінізма і імперыялізма. Адным з асноўных лозунгаў «Саюза стральцоў» была барацьба з комунізмам. Моладзь, якую ўдавалася кіраўніцтву «Стральца» уцягнуць у яго рады абяцаннямі ўстроіць яе на работу або пагрозамі ўволіць з работы, выкарыстоўвалі неаднаразова ў якасці штрэйкбрэхераў.

Як прыманку для моладзі, арганізоўвалі ў «Стральцы» харавыя гурткі, аркестры, бібліятэкі. У спецыяльных атрадах, так званых «Арлят», кіраўніцтва «Стральца» арганізоўвала моладзь да 16-гадовага ўзросту.

Але неаднаразова маладыя рабочыя і сяляне, пераканаўшыся на ўласным вопыце ў контррэволюцыйным характары «Стральца», адыходзілі з яго радоў. Так было ў Беластоку ў час буйнай забастоўкі тэкстыльшчыкаў у 1933 годзе. Тады маладыя тэкстыльшчыкі, члены «Стральца», у Супраслі выступілі з гэтай арганізацыі і разам з усімі тэкстыльшчыкамі ўдзельнічалі ў вулічных дэманстрацыях, змагаючыся з паліцыяй.

Другой поўваеннай арганізацыяй, якая працавала сярод школьнай моладзі, быў «Саюз польскага герцэрства» (бойскауты). Першы пункт статута «Герцэрства» загадвае яго маладым членам «служыць Польшчы». Безумоўна, Польшчы памешчыкаў і капіталістаў. І бойскаутам унядраецца поўваенная дысцыпліна. Яны, як і ўся школьная моладзь у панскай Польшчы, «выхоўваліся» на «вялікіх прыкладах» шляхецкіх каралёў, на імперыялістычных марах аб Польшчы «ад мора да мора», на барска-клерыкальных раманах Сенкевіча (накшталт «Агнём і мячом», дзе крывавыя зверствы польскіх паноў над украінскім і беларускім сялянствам п[illegible]зваліся як «абарона культуры» і г. д.).

Моладзь стараліся прыцягнуць у рады бойскаутаў яшчэ такімі фразамі, як: «быць карысным, дапамагай грамадству», лозунгамі аховы прыроды, краязнаўства «польскіх усходніх акраін». Для бойскаутаў наладжваліся экскурсіі, ваенныя спартыўныя ігры і г. д. Пры «Герцэрстве» існавала арганізацыя дзяцей «Зухы» (малайцы).

На чале «Герцэрства» былі вядомыя пілсудчыкі: ваявода Гражынскі, адвакат Пасхальскі, а ў Беластоку іх апекуном быў сам «пан ваявода» генерал Пaслаўскі. За дзяржаўныя грошы выдавалася ў Беластоку іх спецыяльная газетка пад назвай «Гарцэрскі зэв крэсовы» (гарцэрскі заклік на акраінах).

Пілсудчыкі вялі сваю работу сярод рабочай і саматужнай моладзі, асабліва пры дапамозе ОМП (арганізацыя працоўнай моладзі). ОМП высоўвала лозунгі «грамадзянскага выхавання», фізкультуры, матэрыяльнай дапамогі і забеспячэння моладзі работай. ОМП перш за ўсё падкрэслівала пытанне беспрацоўя. Безумоўна, яна ніколі не заклікала моладзь на барацьбу супроць буржуазіі і яе дзяржавы за атрыманне работы. Наадварот, уся дзейнасць ОМП зводзілася да наладжвання майстэрань, дзе некаторыя маладыя беспрацоўныя абучаліся рамяслу, а потым накіроўваліся на работу ў дзяржаўныя прадпрыемствы або пасылаліся ў летнія лагеры на непасільную працу па будаўніцтву стратэгічных дарог. Уся дзейнасць ОМП вялася пад лозунгам «звязаць працоўную моладзь з польскай дзяржавай». Дзякуючы ўсякім манеўрам, асабліва па пытаннях беспрацоўя, ОМП змагла прыцягнуць пэўную колькасць маладых рабочых у свае рады, у тым ліку і ў Беластоку.

Ярка палітычнай арганізацыяй пілсудчыкаў сярод моладзі быў «Легіён млодых». Спачатку гэта арганізацыя разгортвала сваю дзейнасць сярод студэнтаў, а потым і сярод маладых рабочых. У сваіх выданнях і выступленнях «Легіён млодых» ужываў самую цынічную дэмагогію. — Капіталістычны лад — гэта прычына галечы і няшчасця грамадства. Мы павінны стаць на барацьбу за новы лад соцыяльнай справядлівасці. — крычалі дэмагогі з «Легіёна млодых». Яны заяўлялі, што Польшчу трэба вызваліць ад панавання іншакраінных, але, безумоўна, не ад сваіх, польскіх капіталістаў. Яны аралі аб тым, што банкі і буйную прамысловасць трэба аддаць, безумоўна, не народу, а дзяржаве сміглы і бека. — Мы не шавіністы, а дзяржаўныя нацыяналісты, — крычалі легіёнаўцы. — Мы павінны выканаць сваю вядучую ролю ў адносінах да славянскіх нацыянальных меншасцей (чытай: запрыгоньваць украінцаў, беларусаў, літоўцаў і г. д.) і да народаў між Чорным і Балтыйскім морамі.

Барацьба з комунізмам і сляпое падначаленне рыдзу смігламу — вось у асноўным «праграма» «Легіёна млодых». Але сярод яго членаў маладых рабочых і інтэлігентаў былі і такія, якія не хацелі ісці па гэтаму шляху. У арганізацыі адбыўся раскол. Частка членаў вышла з яе. Але кіраўнікі так званай «левіцы» «Легіёна млодых» не пайшлі далёка. Яны далучыліся да левай па фразах, а контррэволюцыйнай па сутнасці ППС.

У пілсудчыкаўскіх маладзёжных арганізацыях на фоне растучага нездавальнення нізоў, узмацнялася і ўнутраная грызня за ўплыў, за пасты і дзяржаўныя субсідыі, якая прыняла самыя брудныя і гнілыя формы з моманту стварэння ОЗН і яго маладзёжнага аддзялення «Службы млодых». Яна, не маючы ніякай апоры сярод моладзі, старалася падпарадкаваць сабе ўсе вышэй указаныя маладзёжныя арганізацыі пілсудчыкаў, аднак з малым поспехам. У сваім органе «Заўтра Польшчы» «Служба млодых» высоўвала самыя чорнасоценныя лозунгі нацыяналізма і антысемітызма: «Польшча для палякаў», «Асімілірваць з польскім маналітам славянскіх братоў на акраінах», «Прагнаць яўрэяў» і г. д.

У вёсцы ОЗН меў сваёй маладзёжнай арганізацыяй «Цэнтральны саюз маладой вёскі» на чале з Гератам. Ён высоўваў лозунгі: «Моцных самастойных гаспадарак» (чытай: кулацкіх). «Інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі», і перш за ўсё яго падпарадкаванне патрабаванням польскага імперыялізма і яго арміі на выпадак вайны. Арганізацыі «Цэнтральнага саюза маладой вёскі» былі насаджаны старастамі і паліцыяй і ажыццяўлялі сваю дзейнасць ва ўсіх паветах былога Беластоцкага ваяводства.

## II.

Другую вялікую групу буржуазных маладзёжных арганізацый складалі арганізацыі нацыянальнай дэмакратыі (эндэцыі). Да ліку такіх арганізацый трэба залічыць «Саюз моладзі вшэхпольскай» і адкалоўшыйся ад эндэцыі ОНР (лагер нацыянальна-радыкальны), групу «Фаланга» і г. д., у радах якіх у першую чаргу была моладзь.

«Моладзь вшэхпольская» арудавала ў першую чаргу сярод студэнтаў і вучняў. Яна, як і ўся НД, праўзглашала самы чорны нацыяналізм і антысемітызм. Яна арганізоўвала гнусную кампанію супроць прыёмы яўрэяў ва універсітэты і сярэднія школы, за так званае «скамеечнае гэта» ва універсітэтах, гэта значыць за тое, каб яўрэйскія студэнты сядзелі на особных спецыяльна абазначаных партах. Тых, хто не падпарадкоўваўся іх распараджэнням, яны крывава збівалі, а часам і забівалі, як эта было ў Львове. Яны ўзначальвалі кожнае рэакцыйнае выступленне супроць рабочых і інтэлігентаў. Эндэцкія студэнты і іншыя члены іх арганізацыі наладжвалі крывавыя яўрэйскія пагромы.

Не гледзячы на сваё разнагалоссе з пілсудчыкамі і свой апазіцыйны тон у адносінах да ўрада, яны заўсёды дружна выступалі разам з пілсудчыкамі і супроць Чэхаславакіі, і супроць Літвы. Адны і другія былі і з'яўляюцца заклятымі ворагамі рабочага руху, комунізма і Совецкага Саюза.

Уплыў эндэцкіх маладзёжных арганізацый сярод інтэлігенцыі і адсталых маладых рабочых і сялян быў у свой час, дзякуючы іх дэмагагічнай апазіцыйнай фразеалогіі, мацней, чым уплыў пілсудчыкаў.

Самую вострую контррэволюцыйную работу вёў ОНР (лагер нацыянальна - радыкальны). Высоўваючы дэмагагічныя лозунгі барацьбы з яўрэйскімі банкірамі і іншаземным капіталам, за работу для беспрацоўных палякаў, яны арганізоўвалі банды, якія з палкамі і зброяй у руках нападалі на памяшканні профсаюзаў, крывава збіваючы і забіваючы рабочых. Калі пілсудчыкаўскія ўлады, якія фактычна падтрымлівалі ўсе іх злачынствы, пад націскам грамадскай думкі забаранілі фармальна іх дзейнасць, — тады ОНР у далейшым беспакарана праводзіў сваю бандыцкую работу, стараючыся адначасова выкарыстаць для сябе арэол «нелегальнай» арганізацыі.

Частка маладзёжна - эндэцкіх элементаў перайшла ў лагер пілсудчыкаў, асабліва з моманту стварэння ОЗН. Яна была прыцягнута тлустымі падачкамі. У маладзёжную арганізацыю ОЗН улілася частка арганізацыі «Фалангі», якая адкалолася ў свой час ад эндэцыі.

Усё гэта зусім зразумела, бо як пілсудчыкаўскія, так і эндэцкія маладзёжныя арганізацыі з'яўляюцца самымі заклятымі ворагамі рабочых, сялян, прыгнечаных народаў, ворагамі комунізма і Совецкага Саюза.

Варта яшчэ ўказаць на «Каталіцкі саюз моладзі». Гэта арганізацыя была адносна шырока распаўсюджана і распалагала вялікімі грашовымі фондамі і вялікім апаратам рэакцыйных выданняў, бібліятэк, школ, дзіцячых садоў, майстэрань, курсаў сельгаснавуча і г. д. Яна выкарыстоўвала ўсялякія способы для атручвання моладзі ядам клерыкалізма і шавінізма, ненавісці да ўсяго, што звязана з рабочым рухам, з комунізмам.

Зусім зразумела, што ва ўмовах вызваленай Заходняй Беларусі рэшткі гэтых арганізацый вядуць і будуць весці падрыўную работу супроць улады рабочых і сялян, супроць совецкай улады.

Комсамол — адзіны важак совецкай моладзі — павінен да канца выкрыць контррэволюцыйную сутнасць усіх гэтых буржуазных арганізацый моладзі, разграміць іх дзейнасць, якая сямтам яшчэ праяўляецца, асабліва ў школах, і дабіцца таго, каб у прадстаячых выбарах уся моладзь, якая дасягнула 18-гадовага ўзросту, дружна пайшла да выбарчых урнаў, прадэманстравала сваю згуртаванасць вакол Ленінска-Сталінскага комсамола, вакол партыі, вакол найвялікшага друга моладзі — вялікага Сталіна.

**С. А. Натансон.**

*В ПОМОЩЬ ИЗБИРАТЕЛЮ*

# ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ СССР

По старой Конституции СССР, действовавшей до декабря 1936 года, верховным органом государственной власти в Советском Союзе был Всесоюзный с'езд Советов, а в промежуток между с'ездами Советов — Центральный Исполнительный Комитет СССР (сокращенно ЦИК СССР).

Сталинская Конституция внесла большие изменения в организацию высшей государственной власти СССР. По новой Конституции СССР, высшим органом государственной власти является **Верховный Совет СССР.** Он избирается сроком на 4 года гражданами СССР на основе всеобщего, равного и прямого избирательного права при тайном голосовании.

Верховный Совет — единственный законодательный орган Союза ССР.

Верховный Совет СССР представляет Советский Союз в международных сношениях с другими государствами, заключает и утверждает с ними договоры. В ведении Верховного Совета находятся организация обороны и руководства всеми вооруженными силами СССР, охрана государственной безопасности. Верховный Совет следит за исполнением Конституции СССР, принимает в состав СССР новые республики, утверждает изменение границ между союзными республиками и образование новых краев, областей, а также новых автономных республик в составе союзных республик. Верховный Совет устанавливает народнохозяйственные планы СССР, утверждает единый государственный бюджет и др.

Верховный Совет СССР состоит из двух палат: **Совета Союза и Совета Национальностей.**

Для чего нужны две палаты Верховного Совета?

Товарищ Сталин в своем докладе на Чрезвычайном VIII Всесоюзном с'езде Советов следующим образом об'яснил, почему необходим Совет Национальностей: «...СССР не есть единое национальное государство. СССР есть, как известно, многонациональное государство. У нас имеется верховный орган, где представлены **общие** интересы всех трудящихся СССР независимо от их национальности. Это — Совет Союза. Но у национальностей СССР кроме общих интересов имеются еще **свои особые, специфические** интересы, связанные с их национальными особенностями. Можно ли пренебрегать этими специфическими интересами? Нет, нельзя. Нужен ли специальный верховный орган, который бы отражал эти именно специфические интересы? Безусловно нужен. Не может быть сомнения, что без такого органа невозможно было бы управлять таким многонациональным государством, как СССР. Таким органом является вторая палата, Совет Национальностей СССР».

Обе палаты Верховного Совета — Совет Союза и Совет Национальностей — **равноправны.** Они имеют одинаковое право представлять на утверждение Верховного Совета СССР проект того или иного закона. Закон считается утвержденным только тогда, когда он принят **обеими** палатами.

Верховный Совет СССР на совместном заседании обеих палат образует Правительство СССР — **Совет Народных Комиссаров СССР.**

Обе палаты Верховного Совета СССР начинают и заканчивают свои сессии (заседания) одновременно.

Могут спросить: ну, а что, если между Советом Союза и Советом Национальностей обнаружится разногласие по какому-нибудь вопросу? В таком случае создается на равных началах **согласительная комиссия** из представителей обеих палат. Эта комиссия и разрешает спорный вопрос. Если комиссия не придет к согласному решению или ее решение не удовлетворит одну из палат, тогда спорный вопрос снова рассматривается в обеих палатах. Если же и на этот раз палаты не придут к согласному решению, тогда Президиум Верховного Совета распускает Верховный Совет и назначает новые выборы.

**Президиум Верховного Совета** избирается на совместном заседании обеих палат. В состав Президиума входят председатель Президиума, одиннадцать его заместителей, секретарь Президиума и 24 члена Президиума.

Каковы полномочия Президиума Верховного Совета СССР?

Президиум Верховного Совета СССР созывает сессии Верховного Совета: распускает Верховный Совет в случае, описанном выше, и назначает новые выборы; дает толкование действующих законов СССР и издает указы: производит по собственной инициативе или по требованию одной из союзных республик всенародный опрос (референдум).

В период между сессиями Верховного Совета Президиум освобождает от должности и назначает отдельных народных комиссаров СССР; награждает орденами и присваивает почетные звания СССР; осуществляет право помилования; назначает и сменяет высшее командование вооруженных сил СССР; об'являет состояние войны в случае военного нападения на СССР или в случае необходимости выполнить то или другое международное обязательство по договорам о взаимной обороне от агрессии; об'являет общую и частичную мобилизацию и др.

Во всей своей деятельности Президиум Верховного Совета подотчетен Верховному Совету СССР.

* * *

Первые выборы в Верховный Совет СССР происходили 12 декабря 1937 года. Избирательная кампания началась за два месяца до этого срока. Она развертывалась в обстановке исключительного политического и трудового под'ема миллионных масс. Сотни тысяч активистов участвовали в раз'яснительной работе, миллионы принимали участие в кружках, где изучались Сталинская Конституция и избирательный закон.

С особенной тщательностью трудящиеся подходили к выдвижению кандидатов в депутаты Верховного Совета СССР. Каждая кандидатура обсуждалась на многочисленных собраниях. Выдвигались партийные и непартийные большевики, люди, известные своей преданностью делу рабочего класса, делу партии Ленина—Сталина, делу социализма.

7 декабря 1937 года, за несколько дней до выборов, Центральный Комитет Всесоюзной Коммунистической партии (большевиков) опубликовал обращение ко всем избирателям — рабочим, работницам, крестьянам и крестьянкам, к Красной Армии, к советской интеллигенции. Партия большевиков в этом обращении заявляла, что она выступает на выборах **в блоке, в союзе с беспартийными рабочими, крестьянами, служащими, интеллигенцией.** Центральный Комитет партии призывал всех коммунистов и беспартийных голосовать за кандидатов блока.

12 декабря 1937 года было днем всенародного праздника. В голосовании приняло участие 96,8 проц. избирателей. За кандидатов блока коммунистов и беспартийных голосовало 98,6 проц. всего числа участвовавших в голосовании.

Советский народ продемонстрировал перед всем миром свое величайшее морально-политическое единство, свою преданность делу коммунизма.

Под знаком непобедимого блока коммунистов и беспартийных советский народ одержал затем такую же блестящую победу на выборах в Верховные Советы союзных и автономных республик и в местные Советы депутатов трудящихся.

Нет сомнения, что освобожденные народы западных областей Украины и Белоруссии проведут выборы в Верховный Совет СССР и в республиканские Верховные Советы на таком же высоком идейном и политическом уровне, как это было два года назад в СССР, как это было на выборах в Народные Собрания Западной Украины и Западной Белоруссии в октябре прошлого года. С полным сознанием ответственности освобожденные народы западных областей Украины и Белоруссии, влившиеся в семью народов СССР, пошлют в верховные органы советской власти лучших и достойнейших сынов и дочерей, преданных до конца делу трудящихся, готовых самоотверженно бороться за полную ликвидацию проклятого наследия панского гнета и помещичье-капиталистической эксплоатации, за создание новой, счастливой жизни.

